# Голас Радзімы

№ 5 (2043)
4 лютага 1988 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.




Добры дзіцячы сад у рабочых мінскай птушкафабрыкі імя Н. Крупскай. Бацькі спакойныя за сваіх малышоў: з імі вопытныя педагогі-выхавальнікі, клапатлівыя няні, на кухні сада працуюць умелыя повары. Харчаванне для дзяцей падбірае ўрач-дыетолаг, ён рэгулюе каларыйнасць і набор неабходных вітамінаў. Ёсць у дзяцей пакоі для гульняў, спартыўных і музычных заняткаў. Гэты фотаздымак зроблены ў час абеду. Дапамога ў сервіраванні стала, прыбіранне посуду — абавязковы момант працоўнага выхавання малых.

Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.

З АФІЦЫЙНЫХ ПАВЕДАМЛЕННЯЎ

# АДКРЫЎСЯ ПЛЕНУМ ЦК КПБ

У Мінску адбыўся пленум Цэнтральнага Камітэта КПБ. На ім ішла прынцыповая і дзелавая размова аб ходзе перабудовы эканамічнага і грамадскага жыцця ў рэспубліцы. У выступленнях адзначалася, што эканоміка і сацыяльная сфера Беларусі развіваюцца дынамічна.

Аб'ём прамысловай вытворчасці летась узрос на 14 працэнтаў пры плане 9,3. Звыш плана выраблена прадукцыі на 2,2 мільярда рублёў. Павысілася і сярэднегадавая вытворчасць сельгаспрадукцыі. Сукупная рэнтабельнасць сельскагаспадарчай вытворчасці склала 30 працэнтаў.

Перавыкананы заданні па ўводу жылля, школ, бальніц і палікілінік, іншых аб'ектаў культурна - бытавога прызначэння. За два апошнія гады ў Беларусі справілі наваселлі амаль 200 тысяч сямей.

Узрос і дабрабыт людзей. Сярэднемесячная заработная плата рабочых і служачых за год павялічылася на 8,2 працэнта, калгаснікаў — на 14,3 працэнта, выплаты і льготы з грамадскіх фондаў спажывання—на 10,6 працэнта.

Але галоўная размова на пленуме ішла пра тыя хібы, што яшчэ не выпраўлены, праблемы, якія ўсё яшчэ чакаюць свайго вырашэння. На жаль, іх пакуль нямала. У сувязі з гэтым асобая ўвага ўдзялялася паляпшэнню арганізацыі справы і павышэнню ўзроўню падрыхтоўкі кадраў. З дакладам на пленуме выступіў першы сакратар ЦК КПБ Я. Сакалоў.

ДЭКАДА ДРУЖБЫ

## САВЕЦКА-ІНДЫЙСКІЯ СУВЯЗІ

У нашай рэспубліцы, як і ўсюды ў краіне, прайшла дэкада савецка-індыйскай дружбы. Для ўдзелу ў ёй у Мінску знаходзілася дэлегацыя Індыйска-савецкага культурнага таварыства на чале з міністрам працы штата Карнатака С. К. Канта.

Госці з Індыі сустрэліся з кіраўніцтвам і актывістамі Беларускага таварыства дружбы і культурнай сувязі з зарубежнымі краінамі, Мінскага гарадскога аддзялення Таварыства савецка-індыйскай дружбы. У той жа дзень вечарам яны прынялі ўдзел ва ўрачыстым сходзе прадстаўнікоў грамадскасці горада, прысвечаным Дню рэспублікі Індыі.

Беларусь атрымлівае з дружалюбнай дзяржавы медыцынскае абсталяванне і лякарствы, мінеральную сыравіну, фарбавальнікі, гербіцыды, швейныя і трыкатажныя вырабы, чай, каву, вострыя прыправы. У сваю чаргу, беларускія прадпрыемствы пастаўляюць у Індыю вялікагрузныя аўтамабілі, розныя машыны і абсталяванне, угнаенні, будаўнічыя матэрыялы і іншыя прамысловыя тавары.

На сходзе выступілі С. К. Канта і член нацыянальнага савета Індыйска-савецкага культурнага таварыства адвакат з штата Арыса С. В. Мурці.

У рабоце сходу прынялі ўдзел намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР У. Мікуліч, намеснік Старшыні Савета Міністраў БССР В. Крыцкі.

АДКРЫЦЦІ, РАСПРАЦОЎКІ, ВЫНАХОДСТВЫ

«МУСКУЛЫ» ДЛЯ РОБАТАЎ, ІНШАЙ АЎТАМАТЫЧНАЙ ТЭХНІКІ, ЗДОЛЬНЫЯ І ПУШЫНКУ ПАДНЯЦЬ, І ЗРУШЫЦЬ ШМАТТОННЫЯ БАЛВАНКІ, ПРАПАНАВАЛІ СТАНКАБУДАЎНІКАМ СПЕЦЫЯЛІСТЫ ГОМЕЛЬСКАГА ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ «ГІДРААЎТАМАТЫКА».

Адсюль у арэнбургскае аб'яднанне «Гідрапрэс» паступіла першая партыя так званых прапарцыянальных гідраблокаў.

Сёлета «Гідрааўтаматыка» адправіць спажыўцам некалькі соцень новых апаратаў. А ў разліку на далейшае павелічэнне іх выпуску гамяльчане ствараюць спецыяльны участак. Бо патрэбы айчыннага машынабудавання ў надзейнай гідраўліцы вельмі вялікія.

ВУЧОНЫЯ ІНСТЫТУТА ЯДЗЕРНАЙ ЭНЕРГЕТЫКІ АКАДЭМІІ НАВУК БССР СУМЕСНА СА СПЕЦЫЯЛІСТАМІ МІНСКАГА НАВУКОВА-ДАСЛЕДЧАГА ІНСТЫТУТА БУДАЎНІЧЫХ МАТЭРЫЯЛАЎ СТВАРЫЛІ НОВЫ БУДАЎНІЧЫ МАТЭРЫЯЛ — ДЭКАРАТЫЎНЫ БЕТОНПАЛІМЕР, ЯКІ НЕ МАЕ АНАЛАГАЎ У КРАІНЕ І ЗА МЯЖОЙ.

Вырабляецца ён з пяску, адходаў камнеапрацоўкі, пірытных агаркаў, каляровых пігментаў: вокісу хрому, сажы.

Навінка беларускіх вучоных валодае высокімі фізіка-механічнымі характарыстыкамі, павышанай стойкасцю да дзеяння агрэсіўных асяроддзяў, вызначаецца даўгавечнасцю. Трываласць у параўнанні са звычайным бетонам павышаецца ў тры-чатыры разы, марозаўстойлівасць павялічваецца ў два разы. Бетонпалімер заменіць мармур і граніт пры вырабе дэкаратыўных панелей, аздабленні цокаляў і сцен будынкаў, вестыбюляў, станцый метро, падземных пераходаў.

ГЭТЫ ЯРКА-ЖОЎТЫ АЎТОБУС З КІДКІМ СЛОВАМ «ВЫПРАБАВАННІ», ЯКІ З'ЯВІЎСЯ НА ВУЛІЦАХ МІНСКА, НЕ АДРОЗНІВАЕЦЦА АД ПАДОБНЫХ ЯМУ МАШЫН.

Аднак, разам з тым, яму няма аналагаў у айчынным машынабудаванні. Гэты аўтобус забяспечаны мікрапрацэсарнай сістэмай кіравання механічнай трансмісіяй. Усе складаныя працэсы, якія адбываюцца ў каробцы перадач і сістэме счаплення, ажыццяўляюцца без маніпуляцый рычагамі і педалямі, якіх вадзіцелю ў гарадскіх умовах за змену прыходзіцца рабіць больш пяці тысяч.

Стварылі гэту сістэму вучоныя Беларускага політэхнічнага інстытута на чале з загадчыкам кафедры «Аўтамабілі» доктарам тэхнічных навук Аркадзем Грышкевічам і супрацоўнікі Усесаюзнага канструктарска-эксперыментальнага інстытута аўтобусабудавання Мінаўтапрома СССР пад кіраўніцтвам Мікалая Лузінава.

КАНФЕРЭНЦЫІ

## АБМЯРКОЎВАЮЦЬ ГІСТОРЫКІ-СЛАВІСТЫ

«Вялікі Кастрычнік і славянскія краіны» — гэтай тэме была прысвечана XI Усесаюзная навуковая канферэнцыя гісторыкаў-славістаў, што прайшла ў Мінску. Тры дні вядучыя вучоныя, якія вывучаюць гісторыю славянскіх народаў, абмяркоўвалі вынікі навукова-даследчай работы апошніх гадоў, намячалі шляхі ўдасканалення выкладання гістарычнай навукі ў сувязі з перабудовай вышэйшай школы.

РЭКАНСТРУКЦЫЯ

## НА ВЁСЦЫ НАВАСЕЛЛІ

На цэлы сучасны пасёлак павялічыў свае магутнасці Івацэвіцкі домабудаўнічы камбінат. Пасля рэканструкцыі цэха буйнапанельнага домабудавання з яго канвеера сышлі першыя двухкватэрныя катэджы для вёскі.

Цяпер на камбінаце механізаваны ўсе працаёмкія працэсы, дзякуючы выкарыстанню прыроднага газу паскораны працэс прапаркі панелей, зі на павышана заводская гатоўнасць вырабаў.

Сёлета камбінат паставіць вёсцы 260 двухкватэрных дамоў — у два з палавінай раза больш, чым да рэканструкцыі.

КІРМАШЫ

## ТЫСЯЧА ПАКУПАК

Менш чым месяц аддзяляла другі кірмаш-распрадажу сельскагаспадарчай тэхнікі, арганізаваны Мінскім абласным аграпрамысловым камітэтам, ад першага. Паўтарэнне было выклікана шматлікімі просьбамі з гаспадарак. Бо на кірмашы можна без доўгіх узгадненняў купіць ці прадаць патрэбную тэхніку. Частка калгасаў і саўгасаў па розных прычынах не ўдзельнічала ў першай сустрэчы, той-сёй увогуле яе праігнараваў і цяпер спяшаецца нагнаць упушчанае.

Сума здзелак на паўторнай распрадажы склала 3,8 мільёна рублёў, амаль на паўтара мільёна больш чым на папярэдняй. Расшырыўся асартымент тэхнікі. З'явіліся, напрыклад, агрэгаты для ўборкі камянёў, абсталяванне для перапрацоўчых галін, плугі-культыватары. Яшчэ адна характэрная рыса новага кірмашу — выхад на рынак саміх калгасаў і саўгасаў. Раней пакупкі афармлялі пераважна базы аграпрамкамбіната.

ЗНЕШНІ ГАНДАЛЬ

## ВЕЛАСІПЕДЫ НА ЭКСПАРТ

Першую партыю двухколавых і трохколавых дзіцячых веласіпедаў «Зубраня» адправіў у Румынію і Польшчу калектыў Маладзечанскага завода металавырабаў.

За мінулы год тут асвоены выпуск прынцыпова новых мадэлей.

Прадукцыя завода карыстаецца попытам не толькі ў сацыялістычных краінах. Цікавасць да маладзечанскіх дзіцячых веласіпедаў праяўляюць гандлёвыя арганізацыі ФРГ, Італіі, Фінляндыі.

САЦЫЯЛЬНАЕ РАЗВІЦЦЁ

## ПА ЗДАРОЎЕ — У «ЛЯСНЫ»

Першых адпачываючых прыняў санаторый-прафілакторый калгаса «40 год Кастрычніка» Камянецкага раёна, пабудаваны ў маляўнічым месцы. Калгасная здраўніца, дзе штогод змогуць адпачыць і паправіць здароўе звыш пяцісот сельскіх працаўнікоў, узведзена па патрабаванню земляробаў і ў адпаведнасці з планам сацыяльна-эканамічнага развіцця гаспадаркі. Медыцынскі комплекс аснашчаны самым сучасным абсталяваннем і апаратурай, сюды запрошаны на работу вопытныя ўрачы.

НОВЫЯ ВЫРАБЫ

## ПАНО НА КУХНІ

Для любой кухні падыдуць пано з керамічных плітак, асвоеных у вытворчым аб'яднанні «Мінскбудматэрыялы». Мастакі прадпрыемства стварылі цэлую серыю міні-праектаў абліцоўкі сцен, кожны з якіх уключае ў сябе некалькі варыянтаў узораў. А ў суправаджальных схемах паказана, як клеіць той або іншы «кавалачак» арнаменту.

За кошт новых рысункаў завадчане прыметна расшырылі асартымент прадукцыі. Сёння на плітці іх наносіцца больш як 220 відаў, галоўным чынам, метадам шаўкаграфіі, якая дае найбольш выразныя адбіткі. На эксперыментальным участку вытворчасці пачалося асваенне вырабаў са шматколернымі «пераводнымі карцінкамі» — дэколямі. Такія рысункі будуць пастаўляць работнікі Мінскага фарфоравага завода.

Сёлета аб'яднанне выпусціць больш як 8 мільёнаў квадратных метраў плітак. Тры чвэрці гэтай дэфіцытнай прадукцыі паступіць у рознічны продаж.

ДАКУМЕНТАЛЬНАЕ КІНО

## «НАРАДЖЭННЕ АРМІІ»

Усяго толькі паўгадзіны цягнецца фільм беларускіх кінадакументалістаў, але ён дае шырокую панараму гісторыі стварэння Чырвонай Арміі — абаронцы маладой Савецкай рэспублікі ад інтэрвентаў. Стужка знята да 70-годдзя з дня нараджэння Савецкіх Узброеных Сіл і перададзена для паказу па тэлебачанні нашай краіны і за мяжой.

Улічваючы ўзрослую цікавасць да дакументаў, стваральнікі фільма выкарысталі нямала хронікі тых год. Разам з «хрэстаматыйнымі», глядач убачыць унікальныя архіўныя знаходкі, якія ўваскрашаюць перыяд грамадзянскай вайны і замежнай інтэрвенцыі. Яны, што называецца, без рэтушы даюць праўдзівыя карціны салдацкага жыцця. Яшчэ нярэдка замежныя гісторыкі сцвярджаюць: Краіна Саветаў з першых дзён ваенізавалася. Фільм — пераканаўчае пярэчанне тым, хто падвяргае сумненню стварэнне Чырвонай Арміі як абаронцы нашай Радзімы ад нападу ворагаў.

ДОМ БЫТУ






**На 1 мільён 600 тысяч рублёў паслуг насельніцтву плануе аказаць сёлета калектыў Дома быту, які адкрыўся паўгода назад у жылым раёне вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш». Бытавікі стараюцца стварыць максімум зручнасцей для кліентаў, павышаючы культуру, аператыўнасць і якасць абслугоўвання. Асабліва зладжанай работы ад калектыву запатрабаваў пераход на самафінансаванне і самаакупнасць.**

**НА ЗДЫМКАХ: новы Дом быту; заўсёды гатова параіць заказчыкам арыгінальны фасон сукенкі ці касцюма мастак-мадэльер атэлье Людміла МАТЫЖЫНА (злева).**

## ПРЫВІЛЕІ ЦІ АБАВЯЗКІ?

# ПЕРАБУДОВЕ ПАТРЭБНЫ АБАРОНЦЫ

## СУСТРЭЧА З МАЛАДЫМ РАБОЧЫМ, ЯКІ НЯДАЎНА СТАЎ КАМУНІСТАМ

**Зараз ва ўсёй нашай краіне назіраецца вялікі грамадскі, палітычны, духоўны ўздым, галоўны імпульс якога ідзе ад КПСС. Менавіта яна першая звярнулася да народа са словамі: перабудова, публічнасць, менавіта пад яе кіраўніцтвам ужо зроблены вялікія зрухі ў нашым жыцці. Сёння мы прапануем чытачам пазнаёміцца з яе радавым членам, адным з амаль васемнаццаці мільёнаў савецкіх камуністаў. Яго завуць Андрэй БАРТАШЭВІЧ. Тэма нашай размовы выклікана пытаннем: чаму ён стаў камуністам.**

— Чаму я стаў камуністам? Паспрабую адказаць на гэта не столькі складанае, колькі «аб'ёмнае», ці што, пытанне. Кожны з нас, хто аднойчы вырашыў узяць ручку, чысты аркуш паперы і напісаць: «Прашу прыняць мяне ў рады Камуністычнай партыі Савецкага Саюза...», у той момант для сябе ўжо адказаў на абавязковае «чаму?»

*— Такім чынам, можа, спачатку трэба расказаць пра сябе?*

— Зараз мне дваццаць пяць год, працую стругальшчыкам на Мінскім заводзе імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, маю сям'ю — жонку і маленькае дзіця. На прадпрыемстве працую ўжо пяць год, паступіў сюды адразу пасля заканчэння вайсковай службы. Нарадзіўся ў Беларусі, пад Заслаўем, у школу пайшоў тут жа, але заканчваў яе ўжо далёка ад родных мясцін, у Сібіры, адтуль і ў армію прызываўся. Чаму такія павароты лёсу? Бацька мой — беларус, маці — руская. Так скlаліся сямейныя абставіны, што пераехалі мы на жыццё ў Іркуцкую вобласць. Але пасля арміі пацягнула мяне на радзіму — у Беларусь.

Спачатку хацеў паступаць у інстытут, каб працягваць адукацыю (у школе вучыўся даволі паспяхова), але калі пасля службы ў арміі ўзяўся за падручнікі, то зразумеў, што шмат чаго забылася, а цярпення аднавіць школьныя веды, хутчэй за ўсё, не хопіць. Вось так і застаўся ля станка. І нікольki не шкадую. Можна лічыць, што справу я сваю знайшоў адразу, без асаблівых ваганняў і памылак. Такім чынам, біяграфія мая самая звычайная, як, дарэчы, і ў многіх іншых.

Што яшчэ можна дадаць пра сябе? Амаль усё ўжо і расказаў. Жывём з жонкай добра, маем пакуль пакой у так званым інтэрнаце для маласямейных, сын ходзіць у яслі, і мы абодва працуем на заводзе. Заробткамі задаволены.

*— У вас яшчэ няма сваёй кватэры. Можа, партыйны білет дапаможа вам хутчэй атрымаць яе?*

— Мне нават дзіўна чуць такое пытанне. Але тым не менш паспрабую растлумачыць...

Справа ў тым, што я і не стаю ў заводскай чарзе на кватэру. Не маю пакуль права: не хапае тэрміну пастаяннай прапіскі ў Мінску, вызначанага па правілах уліку. Але спадзяюся ўжо сёлета ў пашым заводскім прафсаюзным камітэце пакінуць заяву. І, як усе, буду чакаць сваёй чаргі. Льгот у мяне ніякіх няма. Тым больш нельга лічыць прывілеяй членства ў КПСС. Камуніст — гэта не столькі дадатковыя правы, колькі абавязкі. І ў мяне таксама пабольшала грамадскай работы, менш застаецца часу для сям'і. Бывае, жонка і скардзіцца на гэта. Але ўсё ж разумее. І грошы я плачу ў партыйную касу: трэба ж матэрыяльна падтрымліваць нашу справу.

Прывілеі ў сацыялістычным грамадстве існуюць. Як знак пашаны, як адзнака асаблівых заслуг некаторых людзей перад краінай і ўсім народам, незалежна ад таго, хто гэты чалавек — камуніст ці беспартыйны. Так і ставімся да ветэранаў Вялікай Айчыннай, лепшых рабочых, калгаснікаў, славутых вучоных...

*— Але апошнім часам асабліва з газетных публікацый мы ведаем і пра адваротныя выпадкі...*

— На вялікі жаль, так. Але не гэтыя людзі вызначаюць сапраўднае аблічча камуніста і ўсёй партыі.

*— Андрэй, давайце прыгадаем, як вы прыйшлі да думкі ўступіць у Камуністычную партыю. Хто або што паспрыяла вашаму рашэнню?*

— Канешне, прыемна было б тут прыгадаць якога-небудзь вядомага заслужанага сваяка ці знаёмага, чый уплыў мог бы адбіцца на фарміраванні маіх поглядаў. Але чаго не было, таго не было. Можа, гэта і не на маю карысць, але я і ў камсамол уступіў толькі ўжо на заводзе. Хаця да таго два разы пісаў заяву. Але тады ва ўсёй «прыгажосці» праявіўся фармальны, бюракратычны падыход да прыёму моладзі ў нашу арганізацыю. Памятаю, была вывешана аб'ява, што члены камсамола запрашаюцца на сход, а пра нас, уступаючых, ні слова. Ну, я прачытаў яе і падумаў, што мяне аб'ява не тычыцца, тым больш, што ніхто не падышоў са старэйшых таварышаў, не папярэдзіў. Вось так і размінуліся мы з камсамолам.

Што ж прывяло мяне да думкі аб уступленні ў КПСС? Адказ, калі сфармуляваць галоўнае, такі: наша сённяшняе жыццё. Гэта можна разумець і больш канкрэтна: рабочае жыццё нашага завода, цэха, і шырока: сучаснае жыццё ўсіх нас, савецкіх людзей, усёй Савецкай краіны.

Мне неаднойчы даводзілася чуць ад камуністаў з вялікім партыйным стажам, ды і ведаю з гістарычнай літаратуры, што самыя масавыя перыяды ўступлення ў КПСС назіраліся, калі краіна, грамадства перажывалі свае найбольш складаныя, цяжкія часы. Так было, напрыклад, з «ленінскімі прызывамі» ў першыя гады існавання Савецкай улады, так было ў Вялікую Айчынную, калі тысячы беспартыйных байцоў перад боем пісалі: «Прашу лічыць мяне камуністам». Гэта было і актам адабрэння тых падзей, палітыкі, што здзяйсняліся ў краіне, і ўласнай падтрымкай іх на справе, прапановай прыняць на сябе, на свае плечы частку таго, што неабходна зрабіць.

*— Як вы разумееце свой уласны ўдзел у перабудове?*

— І цяпер у нас вельмі адказны час. Нездарма ж сённяшні перыяд, перыяд перабудовы нашага жыцця, мы нярэдка называем сапраўды рэвалюцыйным, а, як вядома, у час рэвалюцыі існуюць два лагеры — тых, хто «за», і тых, хто «супраць». Барыкад, вядома ж, зараз няма. Але супраціўленне пераменам ёсць. Ціхае, скрытае, замаскіраванае, але часам даволі ўпартае. І таму нам, камуністам, пакуль супакойвацца рана. Асабіста мяне зараз хвалююць дзве праблемы, вельмі родпасныя, як мне здаецца, з аднолькавымі каранямі.

Ужо некалькі год я працую з камсамольцамі, з моладдзю нашага цэха. Цяпер вось выбраны і сакратаром цэхавай камсамольскай арганізацыі...

*— Прабачце, вы, камуніст, працуеце ў камсамольскай арганізацыі...*

— Так, нічога дзіўнага. Гэта маё партыйнае даручэнне. Я і сам яшчэ не стары. Ды і ў інтэрнаце нашым насельнікі — людзі ўсе маладыя. Так што меркаванне маю не па чутцы. І вось што заўважаю, што непакоіць: пэўная інертнасць, вузкасць інтарэсаў, якія не падымаюцца вышэй за жыццёва-бытавыя, некаторай часткі маладых рабочых. Яны і адукаваныя, і працуюць добра, старанныя, але ўсё гэта толькі выключна, каб зарабіць болей грошай. Не магу я спакойна глядзець на такую абыякавасць да нашых бурлівых агульных спраў, не будзе перабудовы без намаганняў кожнага — і маіх, і іхніх. Толькі не хачу, каб чытачы зрабілі вывад, быццам усе ў нас раўнадушныя, адзін толькі я такі — «перадавы». Не, безумоўна, не. У цэху, на заводзе галоўная частка — людзі, вельмі цікавыя, якія на справе даказваюць сваё ўменне і права быць гаспадарамі жыцця і лёсу.

*— Вы можаце расказаць пра каго-небудзь з такіх людзей?*

— З задавальненнем. Мне пашчасціла адразу ж пазнаёміцца з такім чалавекам даволі блізка. Як толькі прыйшоў на завод, прызначылі мне настаўніка — Максіма Глуха. Дваццаць год працуе ён у нашым цэху. Вось у яго я і вучыўся прафесіі стругальшчыка. Чуў, што на прадпрыемствах у капіталістычных краінах вопытныя рабочыя не вельмі імкнуцца адкрываць свае «сакрэты» навічкам, не патрэбна ім канкурэнцыя з боку маладых, бо так і без работы можна застацца. А ў нас усё па-іншаму. Максім Максімавіч — шчодры чалавек. Я ў яго не першы [illegible] быў вучань. І з кожным з нас ён дзяліўся ўсім, што ўмеў і ведаў. Таму пасля заканчэння маёй вучобы, на заключным экзамене, настаўнік сказаў камісіі пра мяне так: ён умее ўсё тое, што ўмею і я. За гэтую навуку я застаўся назаўсёды ўдзячны яму.

І такіх людзей на нашым заводзе, што носяць ганаровае імя Кастрычніцкай рэвалюцыі, сотні, таму і прадпрыемства лічыцца ў горадзе і рэспубліцы адным з лепшых. Нашы станкі добра купляюць на замежным рынку.

*— Але вернемся да праблем, іх, вы казалі, было дзве. Якая ж другая?*

— Ужо некалькі год рабочыя цэха вылучаюць мяне сваім прадстаўніком у мясцовы орган улады — Ленінскі раённы Савет Мінска. Дарэчы, каб было ўсё зразумелым, дадам, што ўступаў у партыю і быў вылучаны дэпутатам я амаль адначасова. Але абедзве падзеі не залежалі адна ад адной.

Дэпутацкая работа шмат чаму мяне навучыла, шмат чаму дапамагла даць аб'ектыўную ацэнку. Менавіта дэпутат прызваны садзейнічаць людзям у вырашэнні іх штодзённых жыццёвых праблем і складанасцей. Гэтым я па меры сіл і стараюся займацца. І вось тут я таксама сутыкнуўся з інертнасцю людзей, іх засяроджанасцю на сабе, нават, бывае, нявер'ем у тое, што нехта ў стане ім дапамагчы.

Узняць народ, прымусіць больш верыць у свае сілы, магчымасці і заклікана наша перабудова. Гэта справа, якой займаецца сёння ўся многамільённая партыя савецкіх камуністаў і я, як яе член.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**



**НА ЗДЫМКУ: А. БАРТАШЭВІЧ.**

**Фота С. КРЫЦКАГА.**

## МУЗЕЙ-ЛАБАРАТОРЫЯ ПАД АДКРЫТЫМ НЕБАМ

# ПА МАРШРУТУ ЛЕДНІКОЎ

Першакласнік Андрэйка сядзеў на беразе і гнаў высокія хвалі па паверхні возера Нарач. Яго сябры з задавальненнем насіліся ўздоўж Свіслачы і Волмы, бясстрашна ўзбіраліся на Аршанскае ўзвышша. А адбывалася ўсё гэта на ўскраіне Мінска ля падножжа ўзгорка, на якім красуецца новенькі будынак Інстытута геахіміі і геафізікі Акадэміі навук БССР.

Вучоныя гэтага інстытута стварылі унікальны музей-лабараторыю пад адкрытым небам. Эксперыментальная база, якая займае плошчу 4,5 гектара, дакладна паўтарае контуры граніц Беларусі, капіруе яе рэльеф. Гэта нібыта велізарны макет рэспублікі, на якім мудрагеліста пракладзеныя дарожкі сталі рэкамі, невысокія насыпныя ўзгорачкі — узвышшамі, басейны — азёрамі. Аднак галоўнае на базе не гэта. Цэнтральнае месца ў незвычайнай экспазіцыі займаюць велізарныя камяні — валуны. На першы погляд здаецца, што яны раскіданы абы-як, аднак, тлумачыць супрацоўнік інстытута В. Вінакураў, за ўяўнай хаатычнасцю хаваецца прадуманая сістэма. Таксама рассеяны па тэрыторыі Беларусі валуны, прынесеныя трыма леднікамі, якія дайшлі да гэтых месцаў.

Для вывучэння ледніковых валуноў і створана гэта база. Яе тэрыторыя разбіта на геамарфалагічныя раёны — усяго іх каля 20. І камяні ўсюды розныя, прывезеныя з адпаведных месцаў рэспублікі. Усяго супрацоўнікі інстытута агледзелі ў розных кутках Беларусі каля 200 тысяч ледніковых валуноў. Прыкладна дзве тысячы з іх — так званыя «кіруючыя», якія дазваляюць дакладна вызначыць месца свайго паходжання, а значыць, і маршруты руху леднікоў, а самыя прыгожыя і незвычайныя камяні былі дастаўлены да інстытута. Аб маштабах праведзенай работы дазваляе меркаваць хоць бы той факт, што сярод перавезеных такім чынам валуноў самыя дробныя маюць да метра ў папярочніку і важаць 500—700 кілаграмаў, а найбольш буйныя — да 16 тон.

У далейшым экспазіцыю мяркуецца дапоўніць новымі раздзеламі, якія раскажуць аб месцах паходжання камянёў і іх выкарыстанні чалавекам. Задуманы нават макет-сярэдневяковага замка.

Здаўна сутыкаючыся з валунамі, селянін прыстасоўваў іх для сваіх гаспадарчых патрэб, выкарыстоўваў камяні мудрагелістай формы для ўпрыгажэння падвор'я. Не ведаючы, адкуль узяліся гэтыя гмахі сярод лясоў і балот, ён нярэдка надзяляў іх цудадзейнай сілай.

Цяпер старажытныя камяні напаўняюцца новай сімволікай. Вучоныя інстытута плануюць паставіць уздоўж дарогі некалькі прыгожых валуноў, кожны з якіх будзе напамінаць аб адной са слаўных дат у гісторыі беларускага народа.

— Пошук і вывучэнне ледніковых валуноў маюць не толькі пазнавальныя і эстэтычныя мэты, але і вялікае народнагаспадарчае значэнне, — гаворыць дырэктар інстытута акадэмік АН БССР Р. Гарэцкі — Дакладнае веданне месцаў праходжання леднікоў дае магчымасць вызначыць найбольш верагодныя раёны залягання падземных вод, якія, паводле прагнозаў вучоных, у недалёкай будучыні стануць адным з найбольш каштоўных карысных выкапняў.

**А. ШЫТАЎ.**

***МНЕНИЕ УЧЕНОГО***

# РАЗВИТИЕ ТЕОРИИ СОЦИАЛИЗМА В СССР

**После апрельского (1985 года) Пленума ЦК КПСС начался процесс обновления всех сфер нашей жизни. Расширились демократия и гласность. В обществе развернулась дискуссия по проблемам социально-экономического и политического развития страны. Свое мнение о развитии теории научного социализма и ее применении на практике высказывает старший научный сотрудник Института экономики мировой социалистической системы Академии наук СССР кандидат философских наук Виктор КИСЕЛЕВ.**

История СССР показывает, что страна пережила за 70 лет три основных этапа развития социализма: вначале, во время политики военного коммунизма (1918—1921), была попытка осуществить концепцию, созданную К. Марксом и Ф. Энгельсом; затем была концепция, созданная В. И. Лениным в ходе новой экономической политики (нэп) и действовавшая с 1921 по 1929 год, и, наконец, сталинская, определившая во многом нынешние деформации общественных отношений, с которыми теперь ведется борьба. Сегодня страна переживает трудный, но вдохновляющий период перестройки всей системы общественных отношений, цель которой — восстановить ленинскую концепцию социализма.

### МАРКС И ЭНГЕЛЬС О СУЩНОСТИ СОЦИАЛИЗМА

Суть **Марксовой** концепции социализма в том, что это должно быть посткапиталистическое общество, сменяющее капитализм с его законом стоимости и государственной организацией общества. По логике Маркса и Энгельса, капитализм постепенно исчерпывает возможности своего развития, создавая материальные предпосылки для отмирания закона стоимости и товарно-денежных отношений. На место прибавочной стоимости как определяющей цели производства встает цель всестороннего развития человека — тем самым «отпадет вся история с ее судорогами и страданиями».

Социализм, по Марксу и Энгельсу,— это сознательно регулируемое, то есть планируемое, бестоварное и самоуправленческое общество, базирующееся на общественной собственности на средства производства. Социалистическое государство будет необходимо только для переходного периода, а насилие будет лишь по отношению к свергаемой и сопротивляющейся буржуазии. Трудящиеся массы организовываются в самоуправляющиеся ассоциации по типу Парижской коммуны, а правительство для руководства общими интересами станет дешевым и будет под контролем масс. Для удешевления управления и избавления от постоянной опасности правительственной узурпации классового господства армия и полиция отменяются. Подчеркивая, что современное государство есть идеальный совокупный капиталист, Энгельс считал, что утверждение государственной собственности не разрешает основного противоречия буржуазного общества, но содержит в себе формальное средство, возможность его разрешения. Производительные силы становятся как бы «укрощенными», а государство само себя делает излишним, т. е. отмирает. Установление общественной собственности на средства производства приводит к следующему:

1) ликвидируется классовое разделение труда;

2) устраняются тормоза в развитии производительных сил, в том числе кризисы;

3) устраняется безумная роскошь и мотовство господствующих классов и их политических представителей;

4) утверждается планирование, но не на основе закона стоимости, а на основе полезности предметов потребления.

Такая логика классиков научного коммунизма оправдана. Устранение верхних этажей власти (общегосударственных структур) при сохранении товарных отношений привело бы к рыночной стихии, конфликтам между ассоциациями, регионами и т. д., ибо не было бы способа регулирования и защиты общенациональных интересов. Но устранение товарно-денежных отношений создает условия для бюрократизма, произвола власти, так как трудящиеся утрачивают способ экономического контроля над эффективностью деятельности госаппарата. Поэтому отрицание Марксом и Энгельсом необходимости государства при социализме приводило одновременно и к отрицанию ими нужды в законе стоимости, и наоборот. Но с самого начала своей революционной и теоретической деятельности Маркс и Энгельс считали, что конструирование будущего и провозглашение готовых решений для грядущих времен — дело невозможное и не является их задачей.

### КАК КОНТРОЛИРОВАТЬ АППАРАТ ВЛАСТИ

Ленин, продолжатель их дела, писал: «Мы вовсе не смотрим на теорию Маркса как на нечто законченное и неприкосновенное; мы убеждены, напротив, что она положила только краеугольные камни той науки, которую социалисты **должны** двигать дальше во всех направлениях, если они не хотят отстать от жизни». А в 1918 году, выступая на VII съезде партии, он сказал, что мы не знаем, как будет выглядеть законченный социализм, потому что нет еще для его характеристики материалов.

Вплоть до начала социалистического строительства в России Ленин разделял взгляды Маркса и Энгельса на социализм как на нетоварный и самоуправляющийся. Политика «военного коммунизма» (организация всемогущего Высшего совета народного хозяйства (ВСНХ), снабжение сверху из общего «котла», продразверстка — изъятие у крестьян излишков продовольствия в чрезвычайных условиях,— потребительские коммуны, бесплатность распределения и т. д.) — это результат как условий гражданской войны, интервенции и разрухи, так и видения социализма, попыток реализации его классической модели.

Но революция в одной, к тому же отсталой стране заставила Ленина отойти от этой концепции. Прежде всего понадобилось создать новый госаппарат, включая армию, карательные, правоохранительные органы. Затем опыт первых революционных лет привел Ленина к поискам путей перехода от внеэкономических методов к экономическим рычагам управления, к использованию товарно-денежных отношений, рынка, хозрасчета, налогов и т. д. Особое значение приобрела и кооперация, давшая возможность, по словам Ленина, найти «ту степень соединения частного интереса, частного торгового интереса, проверки и контроля его государством, степень подчинения его общим интересам, которая раньше составляла камень преткновения для многих и многих социалистов».

Введя в модель социализма закон стоимости и государство, Ленин проделал эволюцию от оценки нэпа как «шага назад» к признанию, что это «всерьез и надолго».

С возведением товарно-денежных отношений в ранг существенного элемента концепции социализма Ленин меняет, естественно, и представления о государстве — от самоуправления к большей роли чисто государственных, аппаратных звеньев. Именно с этим связаны мучительные раздумья вождя революции в последние годы о том, как в этих условиях обеспечить контроль трудящихся над аппаратом власти. Рассчитывая, что государство овладеет стихией рынка, Ленин сознавал и грозную опасность бюрократизма: вместо государства вооруженных рабочих, самоуправленческой ассоциации возникло государство чиновников. «Госаппарат... из рук вон плох, ниже буржуазной культуры», «аппарат чужой» — часто повторял Ленин. Все его помыслы были направлены на борьбу с бюрократическими извращениями.

Для выражения и защиты общественных интересов государство должно укреплять роль центра как барьера против стихийности (в том числе стихийности рынка), местничества и т. д. В то же время оно должно широко использовать стоимостные формы, вне которых невозможно выявить и обеспечить интересы индивидов, коллективов, регионов и т. д. Одновременно все без исключения звенья аппарата, связанные с экономикой, должны быть открыты для товарно-денежного контроля за их эффективностью. Не случайно В. И. Ленин обдумывал, как поставить оплату советских служащих в зависимость от эффективности работы экономики.

Но эти раздумья Ленина были во многом забыты, а мысль о том, что нэп — это «всерьез и надолго», проигнорирована. В конце 20-х годов начался процесс отказа от нэпа, стала утверждаться модель государственного социализма с его внеэкономическим принуждением, с административно-приказными методами, сложной бюрократической иерархией. Эта сталинская модель фактически продержалась до нынешней перестройки, задача которой — создать социализм, во многом основывающийся на ленинском наследии.

(АПН).



Фотоэтюд Г. БАБКИНА.

*НА ПРОСТОРАХ РОДИНЫ*

# ТЕЛЕСКОП НА ДНЕ БАЙКАЛА

Зачем забираться под воду, чтобы разгадывать тайны космоса? Такой вопрос возникает в связи с проектом создания телескопа в глубинах Байкала. Оказывается, этот телескоп нужен не астрономам, а физикам, и он не оптический, а нейтринный.

«Поймать» нейтрино на поверхности Земли—дело почти невозможное. Эту элементарную частицу очень трудно выделить в потоке космических лучей (других частиц), бомбардирующих планету. Но есть у нейтрино одно ценное свойство—громадная проникающая способность. Значит, нужен хороший фильтр, который бы отсеял все помехи. И поэтому физики ушли под землю.

Одна из крупнейших в мире Баксанская подземная обсерватория Института ядерных исследований АН СССР на Северном Кавказе имеет «фильтр» 350-метровой толщины. Объем установки, размещенной здесь в глубине горных пород,—свыше двух тысяч кубических метров. Однако требовались установки гораздо больших масштабов. Создавать их под землей практически невозможно. Так возникла идея разместить аппаратуру в глубинных просторах естественных водоемов.

Когда сибирские морозы сковывают Байкал прочным слоем льда, на озеро приезжает объединенная экспедиция Института ядерных исследований, Иркутского и Московского университетов, Томского политехнического института и Лимнологического института Сибирского отделения АН СССР.

— Работы на Байкале мы ведем седьмой год,—рассказывает руководитель объединенной экспедиции, заведующий лабораторией ИЯИ АН СССР доктор физико-математических наук Г. Домогацкий.—Отрабатываем методику глубоководной регистрации элементарных частиц (в первую очередь нейтрино и мюонов), испытываем различные средства глубоководной инженерии, детекторы—ячейки будущего нейтринного телескопа.

Подводная установка (ее объем превысит 10 миллионов кубических метров) сможет улавливать нейтрино очень высоких энергий, свыше $10^{12}$ электроно-вольт (подземные телескопы на это не способны).

Есть еще одна интересная и особенно заманчивая задача—поиск тех нейтрино, которые образовались в процессе формирования и эволюции первых поколений звезд и первых галактик. Эти нейтрино—единственные свидетели бурных эпох—до сих пор живут во Вселенной...

А недавно высокочувствительные приборы зарегистрировали в глубинах Байкала ранее не предполагавшееся свечение микроорганизмов. Использование этого эффекта открывает большие перспективы, в частности, для контроля за экологическим здоровьем озера.

Нейтринный телескоп, к созданию которого мы приступаем,—продолжает Г. Домогацкий,—должен стать более универсальным инструментом. Создание новой техники эксперимента открывает пути для научного поиска не только в первоначально заданном направлении, но и в совершенно неожиданных. Исследование природных потоков нейтрино сверхвысоких энергий может существенно продвинуть наше понимание проблем строения материи на ее самом глубинном уровне, позволит решить ряд принципиальных вопросов в области физики космических лучей и астрофизики, даст информацию о строении и эволюции как Вселенной в целом, так и отдельных ее объектов.

**Александр БАТАЛИН.**
(АПН).

# Siete decenios por el camino del progreso

Gueorgui TARAZEVICH,
Presidente del Presidium del Soviet Supremo de Bielorussia

**ESTIMADOS LECTORES:**

**Hace ya más de diez años en "Golas Radimy" aparece mensualmente una página en inglés. Nuestros compatriotas en América Latina ven esta página y se interesan, ¿por qué no se publica una página análoga en idioma español? Los descendientes de los campesinos bielorrusos, nacidos en tierras lejanas, se interesan de la vida en la Patria de sus padres y abuelos. Pero, como lamentablemente ocurre, la mayoría de ellos pueden leer con dificultad el periódico en idioma bielorruso.**

**Cumplimentando numerosos pedidos de nuestros lectores publicamos la primera página con materiales acerca de Bielorrusia en español que en lo sucesivo saldrá mensualmente. El redactor de la "Página en español" será Demetrio OKÚLIK, bien conocido por numerosos compatriotas en Argentina. Durante muchos años él vivió en ese país, actualmente es profesor del Instituto Pedagógico Estatal de Lenguas Extranjeras de Minsk, miembro activo de la Sociedad bielorrusa "Radima".**

**Les estaremos muy agradecidos a todos los que nos escriban expresando su opinión, sugerencias y observaciones respecto a la "Página en español".**

Del grado de madurez de tal o cual Estado se juzga por sus logros en la economía, la ciencia y la técnica, la cultura, la instrucción y la salud públicas... Bielorrusia, que, junto con todo el pueblo soviético, celebra este año el 70° aniversario de la Gran Revolución Socialista de Octubre, tiene en su haber grandes éxitos alcanzados en todas las esferas de la vida social con lo que hace un gran aporte a la riqueza nacional de la URSS.

Hoy en día, cuando la humanidad se halla ante la disyuntiva entre llevar la confrontación militar nuclear al punto de extendería al espacio ultraterrestre amenazando con exterminar la civilización, o cesar la carrera armamentista imponiendo el desarme y la cooperación, el testimonio más elocuente de la postura progresista del Estado es su desvelo por preservar la paz en la Tierra.

### LA HISTORIA DEL PAÍS

Hay pocos ejemplos en la historia cuando, como resultado de un impetuoso ascenso en lo económico y social, la vida de toda una nación se transforma radicalmente durante tan sólo varios decenios. Hasta la Gran Revolución Socialista de Octubre de 1917, Bielorrusia era una de las zonas periféricas más atrasadas del Imperio ruso: se dedicaba principalmente a las artesanías y elaboración de materias agrícolas; producía artículos industriales por habitante el 120 % menos del promedio de Rusia; a cada 10.000 habitantes les correspondían sólo dos médicos y no es de asombrar que la esperanza de vida no alcanzaba los 40 años; el 80 % de la población era analfabeta; a los bielorrusos se les prohibía hablar su idioma materno y se perseguía su cultura nacional.

El antiguo atraso de Bielorrusia se debió a la política del gobierno zarista que con su actitud de gran potencia respecto de las nacionalidades, no veía en las provincias periféricas sino colonias que debían suministrar materias primas agrícolas, considerando, además, que cuanto más atrasado e inculto era el pueblo tanto más invulnerable era el cruel régimen monárquico.

Pero los bielorrusos jamás aceptaron que su destino fuese el de ser un pueblo esclavo. Salieron de su seno muchos luchadores por la libertad, y la revolución despertó una energía sin par en las masas populares. El poder soviético fue proclamado en Minsk el mismo día que en Petrogrado.

El pueblo bielorruso determinó él mismo su camino de desarrollo histórico. En 1919, el I Congreso de los Soviets de Bielorrusia aprobó la primera Constitución de la República y declaró su decisión de establecer vínculos federativos con Rusia. Y en 1922, conforme a la voluntad del pueblo, Bielorrusia, conjuntamente con otras repúblicas, formó la Unión de Repúblicas Socialistas Soviéticas.

Así comenzó su verdadera historia. Por primera vez en la milenaria historia de la humanidad aparecía un Estado socialista multinacional. Los pueblos libres que integraron la Unión brindaron ayuda fraternal a la Bielorrusia soviética: se le concedió préstamos, se le facilitó recursos materiales y técnicos, y se le envió especialistas calificados. En consecuencia, hasta 1941 se había construido allí más de 1.700 empresas industriales, había reestructurado radicalmente el sistema de transporte; prácticamente se había completado la colectivización del agro y la producción agrícola la había crecido en el 70 %.

La política leninista de las nacionalidades puesta en práctica por el PCUS contribuyó a que Bielorrusia soviética lograra éxitos ostensibles no sólo en elevar el bienestar material de los trabajadores, sino también en fomentar la instrucción general, la educación superior y la enseñanza especializada, como asimismo la ciencia y la cultura. Se fundó la Universidad y se inauguraron otros centros docentes superiores; se crearon 20 teatros, 26 museos, cientos de escuelas y cines, y miles de bibliotecas.

Pero el desarrollo pacífico del país fue interrumpido por la agresión fascista en junio de 1941.

### EL OBJETIVO PRINCIPAL ES ELEVAR EL BIENESTAR POPULAR

Guardamos el recuerdo de la guerra pasada no sólo para honrar a los héroes que defendieron nuestra independencia. Esa guerra exhorta a la generación presente y a las venideras a conservar la paz, a estar alerta ante las artimañas de cuantos preparan un nuevo holocausto mundial.

De los 50 millones de muertos en la Segunda Guerra Mundial, 2 millones 225 mil son de Bielorrusia, en donde pereció uno de cada cuatro habitantes. Fueron destruidas 209 ciudades y cabezas distritales y 9.200 aldeas, incluidas las 692 incineradas junto con sus moradores. Se perjudicó enormemente la economía: las pérdidas superaron 35 veces el presupuesto de 1940. Bielorrusia fue desposeída de la mitad de sus riquezas.

En 1944, el Gobierno de la URSS asignó cientos de millones de rublos para restablecer la economía bielorrusa. En los años del primer plan quinquenal de postguerra se invirtieron en las construcciones básicas de Bielorrusia recursos del presupuesto federal que superaron todas las asignaciones de preguerra.

Se comenzó a crear un complejo económico moderno en la república. En 1950, el volumen de la producción industrial sobrepasó en el 15 % el nivel de preguerra. Empezaron a incrementar el potencial económico que hoy en día es sumamente superior tanto en términos cuantitativos como cualitativos.

Actualmente, la industria bielorrusa produce en un solo día la cantidad de artículos que producía en un mes durante la época de preguerra. Tiene altamente desarrolladas las construcciones mecánicas en general y la construcción de máquinas-herramienta y de aparatos en particular, como asimismo la química y petroquímica, la electrónica y las ramas productoras de artículos de consumo popular y de víveres.

El 20 % de la renta nacional de Bielorrusia se crea en la agricultura. Los bienes raíces de la República constituyen el 1,7 % de los de la URSS, pero proporcionan el 24 % de la producción nacional de lino y el 16 % de patata. Ha cobrado carácter intensivo el desarrollo de la ganadería, que es el ramo principal de la agricultura bielorrusa, pues le corresponde más de la mitad de la producción agrícola bruta y el 80 % de la mercantil.

Con todo, no son los volúmenes y los ritmos de crecimiento los que determinan la economía, sino su orientación social, de elevar el bienestar popular, orientación que se mantiene invariable y que se manifiesta con cada año que pasa con creciente claridad.

Por doquier, la vivienda es uno de los problemas más complejos. El XXVII Congreso del PCUS planteó la tarea de que antes de llegar al año 2000, cada familia tenga un apartamento independiente. En el quinquenio pasado se inauguraron 23 millones de m² y uno de cada cinco habitantes de la República pudieron mejorar sus condiciones de vivienda. Las inversiones básicas en esta esfera crecen también en este quinquenio.

Cada vez es más notable el crecimiento del bienestar material. Los ingresos reales por habitante han aumentado en el 12 % y, en comparación con el estado actual, crecerán en un 60 u 80 % antes del año 2000. En el mismo período se duplicarán los fondos de consumo social que constituyen hoy 508 rublos anuales per cápita.

El plurifacético progreso cultural es la conquista más importante del régimen socialista. Uno de cada tres habitantes estudia, ya sea en la escuela secundaria, en la enseñanza superior o en la especializada. Toda la población tiene acceso a los acervos del arte profesional, a la cultura física y el deporte. Se desarrollan las artes amateurs, para lo cual se perfecciona cada vez más la base material necesaria.

### TIEMPOS DE GRANDES TRANSFORMACIONES

No hace mucho que, debido a las circunstancias objetivas, en la economía soviética dominaba la planificación partiendo de "lo ya alcanzado", o sea, hacer mañana un poco más de lo que se hizo hoy. En la sociedad del socialismo desarrollado, en que existe un gran potencial industrial y científico-técnico, ese enfoque ha pasado a ser caduco y ya no sirve. Ahora estamos en condiciones de planificar partiendo de las necesidades y multiplicar los ritmos de desarrollo, siempre y cuando se continúen perfeccionando las relaciones de producción y el sistema de administración económica y elevando la disciplina laboral.

Así es, a grandes rasgos, la esencia del rumbo estratégico hacia la aceleración socioeconómica, elaborado por el XXVII Congreso del PCUS. Así es el sentido de la reestructuración que abarca hoy todos los niveles de nuestra sociedad.

Se ha planteado crear, antes del año 2000, un potencial económico que, por sus dimensiones, equivaldría al acumulado en toda la etapa del Poder soviético. Se piensa lograrlo acelerando el progreso científicotécnico, incrementando la productividad del trabajo y utilizando más razonablemente los recursos.

A los Soviets — en tanto que órganos del poder popular — les corresponde un enorme papel en el proceso de reestructuración. Para poder reorganizar el trabajo de ramas enteras de la economía y cambiar los nexos caducos dentro del mecanismo económico, hay que modificar las actas legislativas vigentes y, con este fin, hacer una gran labor preliminar. Cabe hacer notar que esta labor se ha desplegado ya y se realiza a toda marcha. Al adoptar nuevas leyes, es preciso luchar consecuentemente por ponerlas en práctica cuanto antes. Se les entrega mayores responsabilidades a los representantes del poder soviético en las localidades para que presten más atención a la satisfacción de las necesidades de la población y para que creen condiciones favorables para su trabajo, su vida y descanso.

Así son nuestros planes y nuestros problemas. Pero hay una tarea fundamental, y si no se resuelve serán irrealizables todas las demás. Es la tarea de conservar la paz, de luchar enérgicamente contra el peligro de guerra nuclear. Pues así con estas ideas, entramos en el octavo decenio de nuestra historia.

## *EN LA TIERRA NATAL*





*Con frecuencia recibimos cartas de nuestros coterráneos pidiendo contarles acerca de sus aldeas natales, ofrecerles la posibilidad de ver aunque sea en fotografías su aspecto actual. Los periódicos con estas fotografías se guardan para mosrársela a sus familiares y conocidos. En la nueva "Página en español" resolvimos abrir una sección permanente "En la tierra natal", en la que trataremos presentar la vida actual de diversas aldeas de Bielorrusia, de donde emigraban nuestros compatriotas en busca de trabajo. Generalmente son aldeas las que ahora se hallan en las regiones de Brest, Grodno y Vitiebsk.*

*De esta manera se transforman las aldeas de Bielorrusia, como este grupo central de casas del koljós "Zapaviety Lenina" (Legados de Lenin) en el distrito de Malorita de la región de Brest. Pero aún, en la mayoría de las aldeas prevalecen las casas de troncos tradicionales de los campesinos. Estamos seguros de que esta imagen de la aldea Lebedevo en el distrito de Miory de la región de Vitiebsk traerá a la memoria de muchos de nuestros compatriotas en el extranjero sus años de infancia y juventud.*

